# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №25 (235) 25 чэрвеня — 1 ліпеня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ


Эстрадная песня ў Рэспубліцы Беларусь у межах IV Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі “Маладзечна-96” аказалася намнога больш жыццяздольнай, чым думалі мае калегі. Напрыклад, у тым годзе конкурс маладых выканаўцаў праходзіў, так бы мовіць, “у эміграцыі” — чамусьці ў Мінску. І трэба адзначыць, што значная частка музычных крытыкаў пахавала ўжо кузню маладых талентаў пры канцэртным аркестры РБ пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, наіўна прагназуючы, што поспех артыстаў кшталту Лікі і Алесі вызначае якасны прарыў да цывілізаванай музыкі.
А дарэмна!

# НАШЫ Ў ГОРАДЗЕ МАЛАДЗЕЧНА

( Заканчэнне на стар. 8)




ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №25 (235) 25 чэрвеня — 1 ліпеня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ

## НАТАТНІК ТЫДНЯ



22 чэрвеня ў дзень 55-годдзя з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны, які стаў цяпер днём памінання і жалобы, у Брэсцкай крэпасці – героі прайшоў тэлерадыёмарафон. У гэты дзень крэпасць-герой наведалі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка і Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын.

*На здымках: дэлегацыі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі накіроўваюцца ў Брэскую крэпасць; ветэраны Вялікай Айчыннай вайны ў Брэсцкай крэпасці.*

**Фота Аляксандра Талочкі, БелТА.**



## РЭХА ГАРАДЗЕНСКАГА ФЭСТУ

Некалькі тыдняў таму наша газета падрабязна расказала пра Першы рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур, які адбыўся напрыканцы мая ў Гародні. Суквецце душ і суквецце талентаў, што выявілася на гарадзенскай зямлі, атрымала самы шырокі, можна нават сказаць, міжнародны рэзананс. Сведчаннем таму ліст Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь пана Эліяху Валка, накіраваны арганізатарам свята.

"Спяшаюся выказаць высокую ацэнку фестывалю нацыянальных культур на Беларусі, які адбыўся ў Гродне, — піша замежны дыпламат. — На жаль, недахоп часу дазволіў мне правесці ў атмасферы фестывалю толькі некалькі гадзін, але і гэтага часу было дастаткова, каб упэўніцца ў тым, колькі энергіі і добрай волі было ўкладзена ў падрыхтоўку гэтага грандыёзнага мерапрыемства.

Вярнуўшыся ў Мінск, я прагледзеў у відэазапісе перадачы, арганізаваныя Беларускім тэлебачаннем, якія далі поўнае ўяўленне пра гэтае свята. Лічу правядзенне падобных фестываляў важкім унёскам у развіццё самасвядомасці нацыянальных суполак на Беларусі і яшчэ раз вітаю ініцыятараў свята і ўсіх, хто ўдзельнічаў у здзяйсненні гэтага грандыёзнага праекта".

## ТРЫ СВЯТОЧНЫЯ ДНІ ЛЕТА НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

28 чэрвеня ў Паставах адкрыецца традыцыйны фальклорны фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік". Ён ужо дзевяты па ліку.

— Кожны фэст мы стараемся зрабіць адрозным ад папярэдняга, — расказвае старшыня аргкамітэта фестывалю, начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Тадэвуш Стружэцкі, — спрабуем узняцца яшчэ на адну прыступку якасці. Сёлета Пастаўскі фестываль атрымаў статус міжнароднага, хаця на папярэдніх таксама былі замежныя госці, але 9-ы фестываль будзе больш шырокім, будуць удзельнічаць інструментальныя калектывы і салісты-аматары не толькі з Беларусі, але і з Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Украіны, Чэхіі. Асаблівая увага будзе нададзена цымбальным калектывам, якія іграюць на аўтэнтычных інструментах. Таму ў склад журы запрошана прэзідэнт Сусветнай цымбальнай асацыяцыі Вера Херэнчар.

У Паставах у новым, спецыяльна пабудаваным амфітэатры (за што трэба падзякаваць кіраўніцтву горада) адбудзецца выступленне Акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча. Пройдуць танцавальная імпрэза "Пастаўскі баль", конкурс "Хто каго"; будуць працаваць творчыя лабараторыі народна-інструментальнага выканальніцтва, весці якія будуць прафесар Беларускай акадэміі музыкі Я.Гладкоў, мастацкі кіраўнік фальклорнага ансамбля "Паазер'е" А.Собаль, мастацкі кіраўнік "Крупіцкіх музыкаў" У.Грома. У гарадскім парку будзе працаваць выстава народных рамёстваў "Горад майстроў".

Сёлетні фестываль стане больш шырэйшым і ў геаграфічным сэнсе, бо ў суседнім райцэнтры пад яго эгідай пройдзе тэатралізаванае прадстаўленне "Глыбоччына сустракае гасцей".

Спадзяёмся, што тры летнія дні фестывалю зробяцца святочнымі і багатымі на яркія мастацкія падзеі і станоўчыя эмоцыі.

**С.М.**

## ВЕЧНАЗЯЛЁНАЕ ДРЭВА РАМЁСТВАЎ



Так называецца выстава народнай творчасці, што адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі культуры Беларусі.

Яе мэта — паказаць сучасны стан гэтага віда нацыянальнай культуры, асаблівасці і характар народнага мастацтва сёння. Экспазіцыя пабудавана па рэгіянальным прынцыпе, што дае магчымасць параўноўваць развіццё рамёстваў у розных кутках рэспублікі. Тут прадстаўлены ўсе віды рамёстваў, якія існавалі са старажытных часоў на нашай зямлі: ткацтва і разьба па дрэве, саломкапляценне і ганчарная справа, пляценне з лазы і інкрустацыя, вышыўка. А такія віды народнай творчасці, як ткацтва, выцінанка, саломкапляценне, захаваўшы традыцыю, узбагаціліся і новымі матывамі, малюнкамі, і каларыт іхні стаў яшчэ больш багатым, насычаным.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА**

11 чэрвеня ў пасольстве Францыі адбылася прэзентацыя кнігі Катрын Міле "Сучаснае мастацтва Францыі", падрыхтаванай згодна з сумеснай французска-беларускай праграмай "Максім Багдановіч".

Катрын Міле сёння адна з найвядомых еўрапейскіх мастацтвазнаўцаў, арганізатар буйных выстаў, рэдактар міжнароднага мастацкага часопіса. У сваёй кнізе яна аналізуе гісторыю мастацтва Францыі ў перыяд з 1965 па 1994 год, раскрывае своеасаблівасць асноўных эстэтычных накірункаў ("новы рэалізм", "оп-арт", "канцэптуальнае мастацтва", "арт-бр'ют ды іншыя), разважае над стасункамі між мастацтвам і грамадствам, ацэньвае ролю музеяў і экспазіцый у культурным жыцці Еўропы напрыканцы стагоддзя.

Кнігу Катрын Міле падрыхтаваў да друку факультэт мастацтваў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў і пасольства Францыі. Адзначым і высокі паліграфічны ўзровень выдання (выдавецтва "Прапілеі" Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта).

## РОЛЯ АСОБЫ Ў ГСТОРЫІ РАГАЧОВА, АЛЬБО МАЛАЯ БЕЛАРУСКАЯ НОБЕЛЕЎСКАЯ ПРЭМІЯ

Мае равеснікі і паплечнікі ў вывучэнні філасофіі памятаюць, якою велізарнай была роля мас і народа ў стварэнні нашай гісторыі і якой мізэрнай у гэтай найсур'ёзнай справе — роля асобы. Сёння гэтая аксіёма ўжо патрабуе доказаў. Для гэтага існуюць людзі найноўшай, не вельмі мне сімпатычнай прафесіі —палітолагі. Межы паліталогіі інтэлігентны чалавек імкнецца не пераступаць. Сённяшнія палітыкі — людзі, пра якіх "хуліган" Андрэй Каравулаў кажа: "Мы на іх, блін, забудземся, вельмі хутка", але (ён жа) "ёсць людзі, якія ўтвараюць гонар нашай культуры". І ён іх пералічвае. У маштабе гэтых нататак я хацеў бы таксама іх "пералічыць" і ў нейкай ступені зацікавіць чытача. І калі ён, паважаны Каравулаў, раптам апынецца, прыкладам, у Рагачове, — каб не абышоў бокам.

Што за горад? Што значыць ён у гісторыі Беларусі? Тут дапаможа даведачная літаратура. А вось такое пытанне (амаль для знаўцаў): назавіце райцэнтр, дзе сёння існуе навукова распрацаваная, зацверджаная і рэальна выконваемая "Праграма развіцця культурна-гістарычнага асяроддзя на 1993 — 2011 гады"? Вось тут і ўзгадваецца роля асобы, калі не ва ўсёй гісторыі, дык у галіне культуры напэўна, і сама сабою складаецца формула: няма асобы — няма культуры. Я толькі назаву двух такіх, як мне падаецца, людзей у Рагачове. Хай жывуць яны доўга. Трэці памёр сто гадоў таму.

Біяграфічных звесткі? Пра іх трэба пісаць кнігі. Гэта —былы старшыня рагачоўскай шляхты Васіль Іолшын, сённяшні намеснік старшыні гарвыканкама Валянцін Кандраценка і стваральнік і былы дырэктар Рагачоўскага краязнаўчага цэнтра (РКЦ) Марат Гаравы.

Тры гады таму Кандраценка, даведаўшыся, што Гаравы скончыў сваю 25-гадовую асветніцкую працу ў Гомелі, сам прыехаў да яго (бо разумеў ролю асобы) і прапанаваў Рагачоў і "фронт работ". Асоба прыехала да асобы, — і праз два гады ў старажытным Рагачове з'явіўся краязнаўчы цэнтр з адзіным у свеце музеем "Лёс салдата" — і гэты цэнтр неўзабаве стаў адной з культурных "кропак" гарадскога жыцця. Спадзяюся, цяпер і — назаўсёды. Гэта ачаг, ля якога можна пагрэць душу і сказаць ціха: мы ведаем пра вас, славутыя продкі нашыя, мы памятаем і —удзячныя, у нас ёсць вы і вашыя жыцці, у нас ёсць карані — гісторыя. На гэтым і трымаемся! І мы яшчэ пабачым свет, як ужо было, і на нашай зямлі зноў паселіцца радасць, і зноў прыляцяць да нас птушкі з белымі крыламі. І ўнукі, і праўнукі, якія перамаглі бяду, будуць карміць з далоні белых буслоў!

Да таго ж, праграма гэтая тычыцца не чаго-небудзь другаснага, а культурна-гістарычнага развіцця Рагачова на пятнаццаць гадоў наперад. Каб унукі пабачылі мемарыяльны парк у гонар 850-годдзя горада, каб пахадзілі па вуліцах Лынькова і Жаўрука (а па вуліцы Караткевіча і сёння ўжо можна прайсці), каб зайшлі ў этнаграфічны і літаратурны музеі, у госці да Караткевіча, наведалі б гістарычную алею памятных знакаў, моўчкі пастаялі некалькі хвілін у гісторыка-запаведнай зоне горада...

У "Праграму" ўключаны і наступны пункт: "Заснаванне Рагачоўскім краязнаўчым цэнтрам штогадовай Іолшынскай прэміі". Пра гэта троху больш падрабязна. Штогод (ужо трэці год запар) краязнаўчы цэнтр у асобе шаноўнай камісіі ўручае аднаму з грамадзян прэмію Іолшына: за дасягненні ў краязнаўстве, развіцці культурна-гістарычнага асяродка горада і дабрачынную дзейнасць у гэтых накірунках. Лаўрэат атрымлівае дыплом, асабісты знак з выявай горада, герба і лаўровай галінкі, а таксама грашовую прэмію ў памеры двух мінімальных заробкаў. (Я разумею, што апошняе не варта было б пісаць, але пастанова аб прэміі абавязвае.) Але ж я ледзь не забыўся на галоўнае! Лаўрэат у прысутнасці грамадскасці чытае сваю іолшынскую лекцыю. У раённай газеце — уся цырымонія, прамова лаўрэата і ягоны фотаздымак.

Цікавая думка прыйшла ў галаву: Нобель і Шведская акадэмія былі б задаволеныя, калі б даведаліся пра малодшую рагачоўскую сястрычку. Магчыма, яны б павялічылі грашовую частку "малой" нобелеўскай прэміі.

А Іолшыных даўно ўжо няма з намі. Але вось вынайшаў Гаравы гэтую прэмію іх імя — і даведаліся гараджане больш падрабязна, хто жыў тут раней, што рабіў — менавіта тут, дзе ты зараз жывеш... Яшчэ адна запоўненая культурная белая пляма.

У чыне штабс-капітана ў 1862 годзе выйшаў у адстаўку кавалерыст Васіль Іолшын, які адваяваў за цара і айчыну ўсе Крымскія войны, і, магчыма, сустракаўся падчас гэтых кампаній з графам Львом Талстым. Разам з жонкай Варварай Іолшын пасяліўся ў Рагачове і трыццаць гадоў быў тут старшынёй шляхецкага сходу. Муж і жонка адыгралі без перабольшання велізарную ролю ў развіцці горада. Тэатр, вучэльня, цэрквы, прытулкі, парк, бібліятэка, аматарская абсерваторыя, пяцьдзесят стыпендый для навучання таленавітых дзяцей з беднаты... Пасля смерці мужа Варвара годна працягнула ягоную асветніцкую і дабрачынную дзейнасць, а паміраючы, пакінула гораду ўвесь свой немалы набытак.

Гэты прыклад з ліку нешараговых, і даўно ўжо наспеў час адрадзіць і ўзвысіць гэтыя імёны, асабліва калі ўлічыць, як і на якім "фоне" жывуць рагачоўцы. Хто павінен быў гэтым займацца апошнія семдзесят гадоў? А апошнія дзесяць? Так, усталёўвалі помнікі. І якія! Толькі аднаго металу, не лічачы граніту і мармуру, хапіла б, каб пабудаваць бронзавы горад і засяліць яго бронзавымі жыхарамі...

А колькі іх засталося, гэтых невядомых іолшыных? Яны, нібыта радовішчы карысных выкапняў для прамысловасці, — скарб і выратаванне для душы, культуры, маралі. І калі б не было "звар'яцелых" рагачоўцаў — і дасюль ніхто б не ведаў пра Іолшыных. Дзякаваць Богу, ёсць яшчэ і Кандраценкі, і Гаравыя, а вакол іх — паплечнікі і вучні.

Яны і сцвярджаюць аксіёму пра ролю асобы ў гісторыі культуры.

**Навум ЦЫПІС**

СІТУАЦЫЯ

# АЎТАР! ЦЯПЕР ТЫ ЎЗБРОЕНЫ... ЗАКОНАМ

***18 ліпеня наша дзяржава стане яшчэ на крок цывілізаванай і дэмакратычней. У гэты дзень у Рэспубліцы Беларусь уступіць у сілу бадай ці не самы важны для дзеячаў культуры закон: "Закон аб аўтарскім праве і сумежных правах", які нарэшце абароніць творцаў, пагасіць спрэчкі, растлумачыць і дапаможа зразумець, хто правы і мае правы, а хто — не. Тым больш, тэма аўтарскага права становіцца актуальнай на фоне канфлікту, што разгарэўся вакол балета "Страсці" кампазітара Андрэя Мдзівані. З галоўным спецыялістам Камітэта па аўтарскіх і сумежных правах Рэспублікі Беларусь Валерыем Васільевічам Пятроўскім размаўляе наш карэспандэнт Серж Мінскевіч.***

**— Якія перавагі будуць у Рэспубліцы Беларусь і яе грамадзян пасля ўступлення ў сілу "Закону аб аўтарскім праве і сумежных правах"?**

— Парушэнне правоў аўтараў з'яўляецца часткай парушэння правоў чалавека. Калі ёсць парушэнні правоў чалавека, дык адпаведныя высновы робіць Еўрапейская дый увогуле сусветная супольнасць у дачыненні да нашай дзяржавы. Гэта адно, а другое, нашыя аўтары, паколькі не было закону, былі не абароненыя ад усялякага відэа- і аўдыяпірацтва. Яшчэ да гэтага моманту ў нас не было закону аб сумежных правах.

**— Што гэта, растлумачце падрабязней?**

— Напрыклад, наш кампазітар напісаў песню, ён з'яўляецца аўтарам і адпаведна атрымлівае ганарары, а хтосьці гэтую песню па дамове з кампазітарам выконвае. Дык да гэтае пары, паводле былых законаў, выканаўцы ўвогуле не павінны былі нічога атрымліваць. Была толькі добрая воля аўтара ці менеджэра канцэрта — маглі заплаціць, а маглі і не плаціць. Закону, які рэгуляваў бы стасункі паміж аўтарамі і тымі, хто валодаў сумежнымі правамі, іншымі словамі выканаўцамі, не было. Дарэчы, гэта не толькі спевакі, якія выступаюць на эстрадзе, але гэта і артысты кіно і тэатра. Хтосьці піша п'есы, а хтосьці ж іх выконвае... А як быць з правам першага выканання? З тымі, з кім аўтар можа дамовіцца, што менавіта ён будзе выконваць гэтую ролю і ніхто болей. Але за гэта будуць атрымліваць дывідэнды і аўтар, і выканаўца. А так, толькі на стаўцы працавалі...

**— А калі іншыя артысты захочуць выканаць гэтую ролю?**

— Трэба дабіцца дазволу аўтара. Дапусцім, Ігар Лучанок даў мне для сцэнічнага ўвасаблення якую-небудзь песню ці дазволіў выпусціць дыск або аўдыякасету. Ён — аўтар, а я — уладальнік сумежных правоў. Акрамя мяне гэтую касету ніхто не мае права ні тыражыраваць, ні прадаваць. Калі гэта робіцца, то парушаюцца сумежныя правы.

Цяпер жа мы можам пераследаваць парушальнікаў гэтых правоў. Тых, хто самавольна, без усялякіх пагадненняў з аўтарамі і вытворцамі паназапісвалі аўдыя- і відэакасеты і гандлююць імі. А гэта ўсё ішло па-за казной, па-за бюджэтам. Дарэчы, каласальныя сродкі! Кожны патрошку, а такіх дзялкоў па краіне шмат. Цяпер можна прыйсці да іх і сказаць:"Спадары, а вы парушаеце...". І на юрыдычнай аснове інспектар прызначыць падаткі.

**— Напрыклад, мой твор зараз надрукуюць без майго ведама тут ці за мяжой...**

— Без вашага дазволу гэта немагчыма.

**— Ну, а раптам такое здарылася...**

— Вы маеце права ўзбуджаць судовую справу супраць парушальніка і дабівацца кампенсацыі маральных і матэрыяльных стратаў, тым больш, што ўсе цывілізаваныя краіны займаюць цвёрдую пазіцыю ў падтрымцы правоў аўтара. А мы, у сваю чаргу, можам вам дапамагчы. Калі гэта трэба — скласці запыт на пэўнай мове, даць юрыдычную кансультацыю, весці ад вашага імя перапіску, абараняць вашую годнасць.

**— Увогуле, што значыць аўтарскае права? На што яно распаўсюджваецца?**

— Распаўсюджваецца яно на творы, якія з'яўляюцца інтэлектуальнай уласнасцю грамадзяніна.

Інтэлектуальная ўласнасць падзяляецца на дзве вялікія галіны: адна — прамысловая ўласнасць, куды ўваходзяць вынаходніцтвы, узоры прадукцыі, таварныя знакі. А другая — чыста інтэлектуальная: мастацкія творы, творы архітэктуры, літаратуры, жывапісу, музыкі, скульптуры, арыгінальная планіроўка, разнастайныя так званыя малыя формы і шмат іншага. Гэта ўсё адносіцца да інтэлектуальнай уласнасці.



**— Добра, а калі твор мастацтва здзейснены нейкай суполкай ці задзіночаннем аўтараў?**

— Гэта не важна, аўтар можа быць як фізічнай асобай, так і юрыдычнай, альбо ўстановай, арганізацыяй.

**— Вось, напрыклад, уявім такую сітуацыю: сабраліся людзі, паразмаўлялі і нешта прыдумалі, дык што ім рабіць у гэтым выпадку?**

— Ім дастаткова ўпаўнаважыць адну асобу, даць ёй даведку, што, скажам, Іваноў, Пятроў, Сідараў упаўнаважваюць яе ад імя фірмы ці арганізацыі, калектыву заявіць пэўны твор. Тады аўтарам будзе калектыў, фірма, кампанія, а прадстаўніком яе — адказная асоба, якая возьме на сябе рэгістрацыю.

**— Раскажыце, калі ласка, як адбываецца сам механізм рэгістрацыі твора. Вось я — аўтар, я абавязкова павінен прыйсці ў ваш Камітэт і зарэгістраваць свой твор?**

— Рэгістрацыя — справа чыста добраахвотная. Вы можаце рэгістраваць, а можаце не рэгістраваць. Але калі вы захацелі на будучыню абараніць свой твор ад якога б там ні было нападу, то вы павінны прадставіць гэты твор нам, напісаць кароткую анатацыю і зафіксаваць у нашых дакументах.

**— Так, я напісаў твор, я — грамадзянін Рэспублікі Беларусь, няўжо я аўтаматычна не з'яўляюся аўтарам свайго твора?**

— Калі вы не зрабілі заяўку і не атрымалі пасведчання і аб вашым творы ніхто не ведае, то ніякага "аўтамата" ў вас не атрымаецца.

**— Значыць, каб абараніць свой твор, я абавязкова павінен яго зарэгістраваць у вас?**

— Не, не абавязкова. Вы можаце, калі кааперуецеся з нейкім сумленным выдавецтвам, прадставіць яму свой рукапіс, праект ці штосьці яшчэ; гэтае выдавецтва выдае яго і на вокладцы ставіць значок капірайта, дзе напісана — аўтар той і той, пазначана — усе правы абаронены. Факт выдання з'яўляецца абаронай вашых правоў. У гэтым выпадку рэгістрацыя не патрэбная. Але рэч у тым, што пакуль вы дойдзеце да гэтай кнігі, пакуль яна будзе выдадзена, ваш твор дзесяць раз могуць "пазычыць". Напрыклад, за той час, пакуль ваш рукапіс будуць набіраць тут, яго выдадуць без вашага ведама дзесьці ў Валгаградзе. Таму аўтарам лепей аддаваць перавагу рэгістрацыі. Яна з'яўляецца неабвержным доказам, што гэты твор менавіта ваш, а не чыйсьці. А потым, калі дзесьці штосьці з'явілася, вы можаце на законнай аснове прад'яўляць іск задавальнення маральных і матэрыяльных стратаў.

**— Добра, а як Вы ацэньваеце закон з пункту гледжання міжнароднага права?**

— Вельмі станоўча. Беларусь становіцца раўнапраўным членам разнастайных міжнародных арганізацый. Яна цяпер мае магчымасць падпісаць міжнародныя канвенцыі, якія абараняюць правы аўтара, выканаўцаў, вытворцаў фанаграм і г.д. Пакуль у дзяржавы не было закону, нас нікуды не прымалі, дарэчы, у Генеральнае Пагадненне па Гандлю, куды ўваходзяць усе еўрапейскія краіны, нас не пускалі. Пагадзіцеся, калі ў Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці ўдзельнічаюць ад 130 да 150 дзяржаваў, то напэўна ж не дурныя людзі сядзяць у падобных камітэтах. Вось, напрыклад, Бернская ці Парыжская канвенцыі...

**— А што такое Парыжская канвенцыя?**

— Парыжская канвенцыя прымяняецца ў галіне прамысловай уласнасці ў самым шырокім сэнсе: вынаходніцтвы, таварныя знакі, прамысловыя ўзоры і г.д. Сюды ж далучаецца Мадрыдскае пагадненне — усе тавары, што ўтрымліваюць ілжывыя ўказанні па паходжанні дадзенага тавару, падлягаюць арышту. Карацей кажучы, абараняюць прамысловую ад падробак.

**— Вы казалі пра Бернскую канвенцыю.**

— Гэта даволі важная канвенцыя — датычыцца інтэлектуальнай уласнасці. Абараняе яна асабліва літаратурныя творы. А заснаваная, не паверыце, у 1886 годзе. 110 год таму! А мы да гэтага прыйшлі толькі вось цяпер. Па становішчы на 1993 год у яе ўвайшлі 95 дзяржаваў, акрамя, натуральна, Беларусі. Гэтая канвенцыя базіруецца на трох асноўных прынцыпах і ўтрымлівае шэраг пунктаў, што азначаюць мінімальны ўзровень дапушчальнай аховы. Ёсць, напрыклад, пункты для краінаў трэцяга свету, ім дазваляецца перадрукоўваць падручнікі. Гэтыя краіны не маюць навукоўцаў высокага кшталту, і каб дапамагчы ім у развіцці — дазваляецца займацца гэтым "пірацтвам".

**— Але мы не краіна трэцяга свету?**

— А мы ні туды, ні сюды... Трэба яшчэ адзначыць Рымскую канвенцыю па ахове вытворцаў і выканаўцаў фанаграм радыё- і тэлевяшчання. Вось у нас тэлебачанне "круціць" усё, што заўгодна, але за гэта не плаціць і не нясе ніякай адказнасці.

**— Калі мы падпішам гэтую канвенцыю, то гэта можа ўдарыць па нашым тэлебачанні?**

— Хвілiначку, гэта ўдарыць па нашым тэлебачанні, але нашыя творы там таксама "круцяць", і нам нічога ад гэтага не дастаецца.

**— Але якая ж у нас якасць...**

— Трэба старацца і стымуляваць якасць. Працуйце хлопцы, стварайце творы сусветнага ўзроўню. Няхай вашыя перадачы ідуць у Парыжы, Нью-Йорку, будзеце атрымліваць у франках, далярах.

**— І колькі людзей у дзень рэгіструюць у вас свае аўтарскія правы?**

— Пакуль не многа. У сярэднім тры-чатыры чалавекі ў дзень. Асабліва шмат іх з Фонду Сораса. На дадзены момант мы зарэгістравалі 135 чалавек за 1996 год.

**— Вы не баіцеся, што ў вас будуць чэргі, каб зарэгістраваць сваю інтэлектуальную ўласнасць.**

— І дзякуй Богу. Няхай людзі ідуць.

**— Дык будуць вялікія чэргі.**

— Ды не, каб былі чэргі, трэба ствараць значныя творы кожны дзень. А з аўтараў нашая дзяржава будзе браць падаткі. Ва ўсім свеце за гэта бяруць грошы. З фізічных асобаў бяруць, напрыклад, на Украіне 25 даляраў за пасведчанне, а з юрыдычных 50 даляраў, і гэта не шмат у параўнанні з патэнтам, там толькі патэнтны пошук каштуе нашмат болей. Вы штосьці вынайшлі і думаеце, што такога не было, але для гэтага неабходна пераканацца, іншымі словамі перагарнуць стос патэнтнай літаратуры і зразумець, што такога да вас не было, не было аналагаў на гэтую тэму. За рэгістрацыю інтэлектуальнай уласнасці ў Беларусі мы прапанавалі 10 даляраў для фізічных асобаў, а для юрыдычных — 25, і гэта, думаецца, нармальна. Тым больш, цяпер закон ёсць.

**— Можа, для нашай дзяржавы, пакуль яна знаходзіцца ў крызісным эканамічным становішчы, гэта зашмат?**

— Але вы рэгіструеце гэта на ўсё жыццё і яшчэ на пяцьдзесят гадоў пасля смерці аўтара. Значыць, родныя і блізкія могуць карыстацца інтэлектуальнай уласнасцю аўтара. Уяўляеце, праз дзесяць гадоў гэтыя 25 даляраў ператвараюцца ў тысячы.

**— А калі я не ўпэўнены, што ў мяне купяць дадзены праект?**

— Ну і што. Дапусцім, цяпер ваш твор не пайшоў, ніхто яго не набыў. А што будзе праз дваццаць-трыццаць гадоў? А праз пяцьдзесят?.. Раптам твор стане актуальным, што часта здараецца. Горш, калі ў вас не будзе на яго правоў. Ён не будзе зарэгістраваны, і вам ніхто тады дапамагчы не зможа. Ці хтосьці яго прысвоіць. І нашчадкі нічога не змогуць даказаць...

Увогуле, трэба падкрэсліць, што Закон доўгачаканы і вельмі патрэбны як для Рэспублікі Беларусь і яе цяперашніх грамадзян, так і для будучых пакаленняў.

**— Дзякуй за размову. Усё ж жадаю чэргаў у вашую ўстанову...**

РАСКАДРОЎКА

# ПРЫЦЕМКІ БЕЛАРУСКАГА КІНО: РОСПАЧ ЦІ НАДЗЕЯ?..

**Пасля кінавечароў, праведзеных у глядзельнай зале Саюза кінематаграфістаў Беларусі, пасля супярэчлівых роздумаў з нагоды новых твораў нашых рэжысёраў вырашыла паслухаць сваіх студэнтаў — выхаванцаў Беларускага універсітэта культуры, іх адчуванні і меркаванні наконт беларускага кіно як сацыяльна-мастацкай з'явы.**
**Абмяняцца думкамі за своеасаблівым "круглым сталом" пагадзіліся: Людміла АСТРОГСКАЯ, Таццяна ГАМАНЬКОВА, Алена ЛЫСЯНОК, Вольга СМАЛЮГОВА ды Сяргей САДОНЕНКА з Яўгенам БОНДАРАВЫМ. Яны не мастацтвазнаўцы, не крытыкі. Пакуль — толькі аматары кінамастацтва, якое іх аб'яднала, не зважаючы ні на ўзрост, ні на спецыялізацыю, ні на курс.**

**Наталля АГАФОНАВА, выкладчыца і кіназнаўца.**



* * *

***Сяргей:*** Нягледзячы на жорсткія фінансавыя абмежаванні, рэжысёры знаходзяць магчымасці здымаць фільмы і паказваць іх гледачу. Асабіста мяне радуе, што кінематаграфісты ўсё больш настойліва звяртаюцца да праблем нацыянальнага быцця: мінулага і сённяшняга.

***Людміла:*** Сапраўды, многія аўтары ў сваіх фільмах абапіраюцца на гісторыка-культурную спадчыну беларусаў. Перш за ўсё гэта рэжысёры дакументальных стужак Станіслаў Гайдук ("Сімяон Полацкі"), Мікалай Князеў ("Сымон Будны"), Валерый Кавалёў ("Ліцвіны. Забытае імя"), Сяргей Лук'янчыкаў ("Акафіст Уладзіміру") і іншыя.

***Яўген:*** Прабач, Людміла, але я лічу, што большасць з гэтых фільмаў — звычайныя кіналекцыі. Што ж да "Акафіста...", дык мне падаецца, што больш няўдалы фільм, нават пры вялікім жаданні, зняць даволі цяжка. Столькі штучных эпізодаў. Напрыклад, сцэна з віяланчэлістам. Не хапае толькі тазіка з вадой ля ягоных ног і шарыкаў зверху. І было б тады кіно "a la Салаўёў". Цудоўны экспанат для пыльнай паліцы. Добрая ідэя —маўчанне Пісьменніка, і з той зрабілі нязграбную карыкатуру.

***Сяргей:*** Пячатка Маўчання на вуснах Быкава і Барадуліна —гэта горыч страты, горыч успамінаў, горыч сённяшняга дня. Я ўспрыняў гэта як драматычнае рашэнне, а не як карыкатуру.

***Яўген:*** Чаму ж тады буйны план Барадуліна, які маўчыць, выклікаў у зале смех?

***Таццяна:*** Таму што аператар не знайшоў правільны ракурс падчас здымкі. Гэтаксама як і акцёр, які агучвае закадравы тэкст, не знайшоў правільнай інтанацыі. Ён так старанна прамаўляе, што ягоныя словы набываюць ілжывы пафас.

***Сяргей:*** Калі адыходзяць вялікія пісьменнікі, застаюцца іхнія кнігі. І яшчэ — іхнія сябры, паслядоўнікі. І гэтая думка праглядваецца ў фільме С.Лук'янчыкава.

***Таццяна:*** Але аўтарская ідэя павінна знаходзіць адэкватнае эстэтычнае ўвасабленне на экране. У гэтым плане найбольш удалы фільм Юрыя Лысятава "Цымбаліст". Вось прыклад, калі чалавек на экране ўвасабляе і сюжэт, і аўтарскую ідэю, і эстэтычную каштоўнасць дакументальнага фільма. Герой карціны — вясковы музыка — валодае незвычайным тэмпераментам. Ягоная душэўная энергія перадаецца гледачу, ягоны аповяд прыцягвае. Ён паводзіць сябе перад камерай цалкам натуральна.

***Сяргей:*** Гэты вясковы цымбаліст абмежаваны на экране, бо жыве ў іншым свеце — свеце ўнутранай гармоніі. Такая унікальная раўнавага даўно страчана гараджанамі. Фільм "Цымбаліст" праз свайго героя вяртае і мне Сэнс быцця, заспакоенасць і радасць судакранання з чымсьці унікальным.

***Яўген:*** Гэта карціна пакінула след у маёй душы. І не толькі дзякуючы герою, але і сваёй мяккай, непрымусовай рэжысуры. Вельмі ўдала ўпісана ў мастацкую прастору фільма жонка цымбаліста. Будзённы занятак — выпечка ёю хлеба — на экране набывае рытуальны характар. Прасейванне мукі, цудадзейства ля печы і... нетаропкасць, маўклівасць. Адчуваеш трываласць, так бы мовіць, гэтай хаты...

***Сяргей:*** Дарэчы, іншы фільм Юрыя Лысятава "Дудка" блізкі па паэтыцы да "Цымбаліста". Рэжысёр здолеў наблізіць мяне да сакральных ведаў, да першапачатковага сэнсу быцця.

***Яўген:*** Дзеля гэтага варта рабіць кіно!

***Алена:*** А калі — не варта, на тваю думку?

***Яўген:*** Калі, напрыклад, рэжысёр мае намер... экранізаваць газетны артыкул.

***Таццяна:*** Ты маеш на ўвазе Галіну Адамовіч і яе фільм "Жаночае пытанне"? Аўтар працягвае тэму дзяцей-сірот. Прычым перад праглядам стужкі яна ўдакладніла: "Вы не падумайце, што мне гэта было цікава. Папросту так атрымалася". Прачытала ў газеце артыкул пра дзіцячую вёску і зняла фільм пад назвай "Жаночае пытанне". Фільм атрымаўся інфармацыйны, нібыта тэлерэпартаж.

***Сяргей***: Мне як сацыяльнаму педагогу гэты фільм цікавы. Узгадайце, колькі пасыпалася пытанняў да рэжысёра пасля прагляду. Мяркую, гэты фільм прываблівае і атмасферай цеплыні і гасціннасці. Што да сацыяльна балючых кропак, дык Галіна Адамовіч умее іх намацаць. А гэта для дакументаліста — палова поспеху.

***Яўген:*** Пошук балючых кропак — не праблема. Бяры камеру і ідзі па дзіцячых дамах, па падземных пераходах, па "хрушчоўках"... Матэрыялу збярэцца больш чым дастаткова. Але дзеля чаго ўсё гэта здымаць? Для таго, каб выклікаць слязу ў шчаслівых? Агітаваць гледачоў кінуцца на дапамогу ўсім пакрыўджаным? Хачу звярнуцца да фільма "Забароўна" рэжысёра Сяргея Пятроўскага. Стужка не дадае нічога да таго, што сказана ўжо тысячу разоў: жудасная вайна забрала жыццё кожнага чацвёртага беларуса. Дарэчы, у 1654 г. падчас вайны паміж нашымі продкамі і Маскоўскай дзяржавай загінуў кожны другі беларус, гарады пазарасталі травой. Фільмаў на гэтую тэму (акрамя карціны Віктара Аслюка "Невядомая вайна". — Г.Ш.) я не ведаю.

***Таццяна:*** Проста носьбітаў памяці пра тую вайну ўжо няма, а ўдзельнікі Вялікай Айчыннай — жывыя. Бліжняя гісторыя, як і далёкая, павінна асэнсоўвацца рэжысёрамі. Толькі пры гэтым ім не варта забывацца на эстэтычныя крытэрыі. Вобраз вёскі-могілак у фільме "Забароўна" дастаткова выразны. Але, на маю думку, рэжысёр мог абмежаваць колькасць герояў, якія вар'іруюць тэму. Фільм быў бы больш кампактным і насычаным.

***Сяргей:*** У мяне асаблівае стаўленне да "Забароўны". Для мяне, да прыкладу, гэта вельмі балючая тэма. Мой дзядуля не дажыў літаральна некалькі дзён да вызвалення. Як ні падобныя адзін да аднаго фільмы пра айчынную вайну 41-га года, яны тым не менш адлюстроўваюць гісторыю. Пры вонкавым падабенстве лёсы людзей адрозніваюцца. Забароўна — рэальная вёска, героі фільма — рэальныя людзі. І добра, што яны захаваюцца на стужцы. Хай гэта застанецца. Каб памяталі. Адны шэдэўры ствараць немагчыма. Заўсёды будзе болей шэраговых, сярэдніх фільмаў, але і яны неабходныя.

***Вольга:*** Як угнаенне для шэдэўраў. А я наогул не падзяляю фільмы на элітарныя і масавыя. На мой погляд, кіно бывае эстэтычнае і гастранамічнае. Эстэтычнае — тое, што ўспрымаецца гледачом з асаблівай увагай і напружаннем. Гастранамічнае —тое, што глядзяць, калі няма чаго рабіць. З сённяшняй беларускай праграмы найбольш лёгкай для "ўжывання" лічу "Метаною" Віталя Шувагіна. Бяруцца кампаненты з чужых фільмаў, напрыклад, з "Дзесяці негрыцят" — дзве часткі. Да іх дадаецца кавалак "Твін Пікса". Усё запраўляецца празрыстым беларускім "соусам" і падаецца на талерачцы як новая страва. Фільм без прэтэнзій. Дазваляе разняволіцца і, часам, паразважаць.

***Сяргей:*** Я б не наважыўся гаварыць пра "Метаною" ў такім іранічным тоне.

***Таццяна:*** Я б таксама не рызыкнула. Хаця, калі ішла на фільм, меркавала, паводле анатацыі, убачыць экранныя варыяцыі на паэтычныя тэмы Іосіфа Бродскага. Як аказалася, ягоная творчасць ні проста, ні ўскосна на фільм не паўплывала.

***Сяргей:*** Гэты фільм шчыльна знітаваны не з лёсам паэта Бродскага, а з лёсам рэжысёра Віталя Шувагіна. Экранная дзея стала трагічнай рэальнасцю: рэжысёр пайшоў з жыцця. З-за этычных меркаванняў мне, напрыклад, вельмі цяжка "разбіраць" фільм на эпізоды. Памятаю сваё агульнае ўражанне цяжару і безвыходнасці, хаця падзеі нібыта заканчваюцца някепска...

***Алена***: Мне фільм "Метаноя", так бы мовіць, лёг на душу. Запомніўся момант, калі салдат заходзіць у хату, дзе ляжыць мёртвая старая, і хавае пад яе ложак зброю. А затым даецца нібы вобразная супрацьвага. Хлопчык (маладзейшы з персанажаў фільма), нібыта сонечны прамень у гэтай мёртвай (дакладней —змярцвелай) зоне, раптам прыносіць партрэт і кажа: "Бабулю звалі Настай, і яна проста пайшла". У гэтых словах мне пачулася нейкая мудрасць... Уражвае вобраз чарнобыльскай бяды. Гэтая тэма трактуецца аўтарамі ў духу "зоны" Таркоўскага.

***Сяргей:*** У аўтарскую сістэму вобразаў "Метаноі" ўвайсці даволі цяжка. І, мяркую, масавага гледача карціна не прывабіць.

***Вольга:*** А я, наадварот, успрыняла "Метаною" як даволі ўдалы прыклад... масавага кіно.

***Яўген:*** Дазволь не пагадзіцца з табою. "Гульня ўяўлення" Міхаіла Пташука — вось тыповы прыклад кіно для ўсіх.

***Вольга:*** А мне такое кіно псуе апетыт. Фільм Пташука стылістычна не вытрыманы, кампазіцыйна не пабудаваны, таму і нагадвае механічнае нагрувашчванне эпізодаў. Штосьці "прыпудрываецца" містыкай, штосьці падштурхоўваецца дынамікай... А "вострая недастатковасць" рэжысёрскага майстэрства замяняецца грубай эксплуатацыяй акцёрскага іміджу.

***Яўген:*** Фільм не прэтэндуе на нешта звышразумнае, але хварэе "на мыльную хваробу" мексіканскіх серыялаў. Безумоўна, Пташук — не Стэлінг. Мяркую, сучасны чалавек з ягонымі галівудска-мексіканскімі густамі прыме "Гульню ўяўлення", як той казаў, на "ўра!".

***Сяргей:*** У Пташука была задача зняць лёгкі фільм, арыентаваны на масавага гледача, якому сапраўды важна папросту выбрацца (хаця б у кіназале) з шэрай руціны будзённасці.

***Таццяна:*** Але рэжысёр перад праглядам сам прызнаўся ў сваім авантурным плане — зрабіць фільм у найкарацейшы тэрмін: за час адпачынку актрысы. Вынік, як кажуць, на экране. Фільм не выратоўваюць нават вядомыя акцёры Любоў Палішчук, Інэса Селязнёва, Ігар Касталеўскі, якія не здолелі пазбегнуць штампаў.

***Яўген***: Сярод бясконцага шэрагу акцёрскіх і рэжысёрскіх штампаў запамінаецца сцэна ў вагоне метро, выкананая Селязнёвай і Касталеўскім тэмпераментна, захоплена, дынамічна.

***Сяргей:*** А я глядзеў увесь фільм на адным дыханні. І аддаю перавагу карціне Міхаіла Пташука, калі яе, напрыклад, параўноўваць са стужкай Алы Сурыкавай "Маскоўскія вакацыі". Як вядома, гэтыя фільмы блізкія адзін да аднаго па тэме і па жанры.

***Таццяна:*** Дарэчы, што датычыць жанру. Аўтары меркавалі зняць лірычную камедыю, але я, да прыкладу, не запомніла ніводнага смешнага эпізоду з фільма "Гульня ўяўлення". А вось, да прыкладу, "Сын за бацьку" Мікалая Яроменкі-малодшага — вельмі смешны фільм. І смешна было не з-за ўдалых камічных прыёмаў, а з-за поўнай прафесійнай бездапаможнасці пастаноўшчыкаў.

***Сяргей:*** За выняткам аператарскай работы Юрыя Елхава.

***Людміла:*** Мы не выпадкова пераключыліся на абмеркаванне ігравых фільмаў. Менавіта з іхнімі прэм'ерамі заўсёды знітаваныя вялікія чаканні.

***Сяргей:*** Так было з фільмам Валерыя Панамарова "На чорных лядах". Ягоная прэм'ера ў Доме літаратара магла б мець сацыяльны рэзананс, бо адбылася 25 сакавіка — на наступны дзень пасля нацыянальнага шэсця. Людзі папросту "кінуліся" ў кіназалу, таму што ў тых, хто быў на мітынгу, заставалася адчуванне несупакоенасці і рашучасці. Падавалася, што фільм стане новым імпульсам для самаспазнання, самаасэнсавання. Але на жаль... Надзеі не спраўдзіліся.

***Яўген:*** На працягу фільма не пакідае адчуванне недасказанасці, незразумеласці. Чакаеш, што нарэшце пратне душу які-небудзь вобраз альбо дэталь; але пачуццё незразумеласці толькі павялічваецца. Бо размова ідзе пра трагічную падзею, а трагізму не хапае. Ёсць масавы суіцыд жменькі фанатаў, але гэта не адлюстроўвае безвыходнасці, гістарычнага тупіка. Ні рэжысёр Панамароў, ні нават Васіль Быкаў не гатовыя, мабыць, пакуль асэнсаваць увесь трагізм закранутай праблемы: народ —гэта натоўп, і яму ўсё роўна, куды ісці — "абы кавалак хлеба быў ды мяне аса-

ЗГАДАЕМ

# КАРЦІНА, ЯКАЯ НЕ ЎБАЧЫЛА СВЕТУ

БЫЛО гэта сорак шэсць гадоў таму, калі ўвесь Менск яшчэ ляжаў у руінах. Рабілісяновыя праекты адбудовы нашай сталіцы. Хацелася бачыць яе з шырокімі вуліцамі і плошчамі, на якіх бы стаялі помнікі дзеячам мінуўшчыны, а больш за ўсё, каб ставілі помнікі героям апошняй сусветнай вайны — Айчыннай.

Зазвычай цярпіць ад вайны цэнтральная частка горада, і на гэты раз ад цэнтра нічога не засталося. Нехта з партыйных кіраўнікоў сказаў (здаецца, П.Панамарэнка): каб не гэтая вайна, дык аб перабудове Менска і марыць бы не прыйшлося. Не было б шчасця, дык няшчасце памагло. Адкінем на хвіліну гэты цынічны прыклад, бо няшчасце народа не заменіш нічым.

Людзі вярталіся дадому з Сярэдняй Азіі, з Ташкента, з іншых далёкіх гарадоў, а дзе жыць — невядома. Тым часам усе менчукі, што апынуліся ў акупацыі, выходзілі на суботнікі збіраць цэглу, складаць у стосы. Праца кожнага чалавека запісвалася ў маленькую кніжачку, колькі гадзін працаваў на ўборцы завалаў, бо ні праехаць было, ні прайсці. Я таксама захаваў гэтую кніжачку як дакумент часу.

Дзіўна было глядзець, як хутка адбудоўваўся Менск. Некаторыя людзі казалі, што Менск адбудоўвалі нямецкія палонныя. Гэта няпраўда, бо ў Менску заставаліся даволі доўга толькі афіцэры ды эсэсаўцы розных злучэнняў, а яны складалі невялікую колькасць людзей. З другога боку, карміць такую вялікую армію ваеннапалонных было немагчыма — іх тэрмінова адпраўлялі на радзіму, хутчэй за ўсё, ва Усходнюю Германію.

Наперадзе стаялі вялікія задачы ў аднаўленні не толькі гаспадарчых, але і палітычных устаноў, як гэта было перад вайною. Усё рабілася вельмі хутка — і адбудова, і праца дзяржаўных устаноў, і пачатак заняткаў у школе, і выхад штодзённай прэсы, і праца творчых саюзаў, рабілася ў такім тэмпе, што поспехі былі ўсім відавочныя, бо гэтак і павінна было быць. Але ж самай вялікай падзеяй было для Беларусі — гэта прыняцце яе ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый як незалежную суверэнную дзяржаву.

Да гэтага часу ў Беларусі ніколі не было міністэрства замежных спраў. Рэспубліка залежала ад Масквы не толькі ў міжнародных справах, але нават і ў гаспадарчых, а пагэтаму ў Маскве мелася так званае пастпрэдства (Пастаяннае прадстаўніцтва), якое займалася толькі прапіхваннем заказаў на пастаўку розных тавараў з Масквы і праз Маскву на ўсю Беларусь. Гэтае прадстаўніцтва жартоўна называлі "піхачамі".

А ці была Беларусь сапраўдным членам ААН, якім былі ўсе замежныя дзяржавы? Не і не. Беларусь і Украіна былі толькі марыянеткамі ў Саюзным Урадзе. Куды шмаргане шнурок гаспадар — туды лялька і павернецца.

Гэта мы сёння так разважаем, а тады мы ганарыліся такою ўвагаю да нас з боку ЗША ды іншых вядучых дзяржаў свету.

Першым міністрам замежных спраў БССР быў назначаны Кісялёў Кузьма Венядзіктавіч, рускі па паходжанні, а па прафесіі лекар. Тым не менш, па загадзе партыі ён быў нейкі час старшынёй Савета Народных Камісараў БССР. Помню, як мы з мастаком Ісакам Давідовічам паказвалі Кісялёву эскіз вялікага пано "Свята ўраджаю ў калгасе імя Тэльмана" для беларускага павільёна сельскагаспадарчай выставы ў Маскве. Трэба было ўзгадніць эскіз у сябе ў Менску, а потым у Маскве ўхваліць яго ў галоўнага мастака УСГВ В.Якаўлева.

Запомніўся яшчэ такі выпадак, калі ў Менск прыехаў Генеральны Сакратар ААН Хамаршэльд. Трэба было зрабіць Хамаршэльду падарунак ад Саўміна БССР. Кісялёў звярнуўся да мастакоў з просьбаю, каб яны тэрмінова прынеслі свае працы ў Міністэрства на прагляд. На жаль, мастакі прынеслі тэматычныя палотны, якія мелі палітычны змест, што ні ў якім разе не падыходзіла (як прапаганда) для ААН сваімі камуністычнымі ідэямі. На гэты раз мне пашанцавала: я прынёс краявід пад назвай "Вечар", а гэта было тое, што патрэбна як падарунак у ААН. Зрабілі срэбную манаграму, змясцілі ў скрыню і адвезлі ў аэрапорт да Хамаршэльда.

Набліжалася святкаванне 30-і гадавіны з дня заснавання Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Мастакі, як заўсёды, рыхтаваліся адзначыць юбілейнае свята, тым больш што пасля вайны гэта мусіла быць першая Усебеларуская мастацкая выстава такога вялікага маштабу.

У большасці сваёй мастакоў займала наша нацыянальная тэма — партызанскае супраціўленне "народных мсціўцаў" у страшэнна цяжкай вайне, якая скончылася перамогай, хаця дасталася яна вялікай крывёю.

Асабіста мяне цікавіла ўсё, у тым ліку і партызанская тэма, але хацелася паказаць выхад нашай рэспублікі на міжнародную палітычную арэну як члена ААН, як раўнапраўную дзяржаву, аб якой у свеце мала хто ведаў. Але ж як перакласці акцыю прыняцця ў ААН на мову выяўленчага мастацтва, каб глядач без надпісу здагадаўся аб змесце карціны? Шлях рызыкоўны, каб не атрымалася нешта рэбуснае ці адваротнае пажаданаму. Не ўсё перакладаецца на мову фарбаў ды пластыкі рухаў, але ж і не ўсё трэба рабіць "у лоб", каб гледачу не заставалася нічога на роздум.

Адбылася Парыжская міжнародная канферэнцыя, на якой была і наша дэлегацыя ў складзе прадстаўнікоў ад Саюза ССР, ад Украіны і Беларусі.

Канферэнцыя адбылася ў памяшканні Люксембургскага палаца ў Парыжы.

Вось вам і тэма — "Прыезд савецкай дэлегацыі на Парыжскую мірную канферэнцыю". Кампазіцыя партрэтная, у якую ўваходзяць не ўсе члены дэлегацыі, а толькі галоўныя кіраўнікі.



На вялікім палатне (270 х 220 см) па дварэ Люксембургскага палаца крочаць на гледача Молатаў, Вышынскі, Мануільскі і наш міністр замежных спраў Кісялёў, а ў канцы ідзе Грамыка, які тады быў паслом СССР у Злучаных Штатах Амерыкі. Па правым баку палатна стаяць людзі, якія вітаюць савецкую дэлегацыю. Вось і ўся карціна, фота з якой я прыкладаю да артыкула. Не буду падрабязна расказваць чытачу, як робіцца карціны, але ж трошкі адчыню заслону нашае кухні, якая складаецца з пошукаў розных матэрыялаў, як фота, так і расказаў вачавідцаў, камандзіровак на месца здарэнняў ды іншых дадзеных знаўцаў канкрэтных фактаў, якія вас цікавяць. Фотаматэрыялы я закупіў у фотакарэспандэнта, які быў у складзе дэлегацыі.

Кансультантам я абраў міністра замежных спраў БССР К.Кісялёва. Мне здавалася, што ён будзе зацікаўлены ў карціне больш, чым хто іншы. Ад яго апавядання ў мяне адразу склалася схема кампазіцыі ў пластычным руху. Уяўляеце, казаў ён, калі мы ішлі па дварэ Люксембургскага палаца, нас віталі гудкамі шафёры іншых дэлегацый. Віталі пераможцаў фашызму, — краіну, што перамагла, амаль асобна да адкрыцця "другога фронту".

І вось, калі эскіз быў гатовы, я панёс яго спачатку Кісялёву, а потым ужо на выстаўкам, дзе старшынёй быў П.Лютаровіч, які таксама ўваходзіў у склад нашай дэлегацыі.

Нарэшце эскіз ухвалілі адзінагалосна, а для выканання карціны далі мне як майстэрню адну з курылак у самім тэатры оперы і балета.

Работа ішла цяжка, амаль без натуршчыкаў. Усе персанажы рабіліся па фотаматэрыялах, а каб дасягнуць падабенства кожнага, каб глядач пазнаў Молатава ці Вышынскага, гэта было нялёгкай задачай. Аднак карціну я напісаў амаль за тры месяцы, яна ўвайшла ў экспазіцыю, а гэта азначала, што мастаку выдаецца ганарар згодна з дамоўленасцю.

Дырэкцыя мастацкага музея лічыла маю карціну галоўным "гваздом" перад усімі іншымі, а таму знайшлі ўдалае месца ў экспазіцыі, дзе карціна лепш глядзелася не толькі здалёк, але і зблізку, — мастакі не без зайздрасці віншавалі мяне, што абраў такую незвычайную крылатую тэму.

Яшчэ да адкрыцця выставы экспазіцыю наведалі кіраўнікі ЦК КПБ з аддзела агітацыі і прапаганды. Сакратаром ЦК па агітацыі і прапагандзе быў у той час Іаўчук — высокага росту чалавек у тоўстых акулярах, відаць, блізарукі. Разам з ім світа — каля васьмі чалавек. Ад выстаўкама была дырэктар Мастацкага музея Алена Аладава. Яна ўцінулася наперад, каб пачуць, аб чым гавораць высокія госці. Я таксама ледзь-ледзь пачуў, што гаворыць сакратар ЦК — амаль сляпы чалавек, бо тое, што ён па палатне водзіць носам, казала мне, што ён нічога не бачыць ні зблізку, ні, тым больш, здалёк.

Я пачуў нейкія картавыя словы: "Чтоб это было под флагами Организации Объединенных Наций? Эта картина не пойдет, не разрешаю — запрещаю". Світа рушыла далей, а я застаўся стаяць у роспачы збянтэжаны каля свайго палатна. Трэба было нешта рабіць тэрмінова. Паехаў у Міністэрства замежных спраў да Кісялёва, а ён, мне казалі, ужо ў тэатры — на выставе, а да вас пайшла машына. Вось я зноў у тэатры каля свайго палатна, а там Кісялёў тлумачыць Аладавай пра карціну, што яна адпавядае зместу і па мастацкай формес таіць на высокім узроўні. Мне, казаў Кісялёў, нельга абараняць карціну, бо я там фігурую сваёй персонаю, нялёгка гаварыць аб сабе.

Яшчэ не скончыўся прагляд карцін, як тут жа схапілі экспанатары мой няшчасны твор і аднеслі яго ў скляпенні тэатра і адвярнулі да сцяны. Я ішоў за імі быццам за труной, у якой нясуць вельмі блізкага мне чалавека... У падвале працаваў цясляр па рамонце тэатральных фатэляў, ён паглядзеў на мяне і кажа: "Чаго вы гэтак забіваецеся? Я чуў, вы атрымалі 25 тысяч рублёў за карціну, чаго вам больш трэба?" Ці зразумее мяне гэты рабочы чалавек, што для мастака трэба акрамя грошай яшчэ і прызнанне гледачоў. Для чаго і робіцца выставы, як не на суд гледачоў? Так, і самому мастаку патрэбна параўнаць сваю працу з працамі калег, каб ведаць, дзе твае памылкі, а дзе і нешта ўдалося.

Знайшліся чулыя мастакі, якія параілі мне напісаць ліст Молатаву, пакласці туды фота карціны, дачакацца адказу і разлічваць на падтрымку самога Молатава. Я так і зрабіў. Чакаю адказу, спадзяюся на тое, што атрымаю станоўчы адказ з Масквы. У рэшце рэшт прыязджае з Масквы загадчык аддзела агітацыі і прапаганды ЦК ВКП(б) таварыш Кісялёў, з якім мы ідзем у падвал. Госць з Масквы вельмі пільна разглядзеў карціну і кажа: "Мне падабаецца ваша карціна. Яна зроблена прафесійна, адпавядае факту канферэнцыі ў Парыжы. Але вось у чым справа: мне вядома тое, што вы ўжо атрымалі ганарар, што карціну можна будзе паказаць на іншай выставе, як ілюстрацыю да важнай падзеі, але пры гэтым аўтарытэт таварыша Іаўчука не будзе парушаны. Згадзіцеся з тым, што ўказанне сакратара ЦК КПБ па агітацыі і прапагандзе трэба выконваць, інакш гэта будзе выглядаць як зламысная кампраметацыя буйнога партыйнага кіраўніка. З вашага боку — вы нічога не губляеце, невялікая ахвяра. Вы яшчэ малады чалавек, у вас наперадзе яшчэ будзе шмат выстаў, шмат прац, так што выбачайце, калі ласка". Усё гэта казалася ў далікатнай форме, быццам з павагаю да мяне, і на той час здавалася справядлівым — нічога не скажаш. Так карціна не ўбачыла свету і па сённяшні дзень. Яна знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі і ляжыць у рулоне. Гадоў мабыць з пяць таму я на сходзе мастакоў падаў такую прапанову, каб усе карціны таталітарнага мастацтва паказаць зноў гледачам, каб яны, а больш за ўсё маладыя людзі ўбачылі карціны "сацыяльнага заказу" — на палотнах адно толькі прыхарошанае, а ў жыцці шмат другога; жудаснага, схаванага ад гледача: арышты, высылкі ў лагеры, расстрэлы палітычных зняволеных — пісьменнікаў, барацьбітоў за нашу мову, за незалежную краіну.

**Яўген ЦІХАНОВІЧ, мастак**

*На здымку: "Прыезд савецкай дэлегацыі на Парыжскую мірную канферэнцыю".*

НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ!

# "КОСТКІ" Ў ГОРЛЕ ЦАНАВЫ. І НЕ ТОЛЬКІ

*Што і казаць — трагічны лёс нашай інтэлігенцыі. Ва ўсе часы найперш яна была для ўладатрымцаў "ахвярным казлом". Як толькі яе не называлі: і "гнілая", і "ліберальная" (чамусьці ўкладваючы ў гэтае бяскрыўднае слова ганебны і лаянкавы сэнс), і "паслугачы буржуазіі", і "гэтак званыя дэмакраты". У залежнасці ад палітычнае сітуацыі і кан'юнктуры інтэлігенцыя "сеяла рознь", "сядзела на шыі працоўнага народа", "ела народны хлеб", быццам і не была ніколі часткай таго самага народа, імем якога з ёй распраўляліся.*

*Асабліва дасталося ёй у 30 — 40-я гады, калі практычна была знішчана інтэлектуальная эліта.*

*І калі ў дваццатыя гады была даволі папулярная высылка інтэлігенцыі за межы краіны, то пазней улады скончылі з гэтай "гуманнай" практыкай. Лёсам інтэлігенцыі сталі рвы ў Бутаве, Курапатах, на тэрыторыі Ваганькаўскіх і Данскіх могілак і мностве іншых могільнікаў, якія спрэс усеялі савецкую краіну. Каму-нікаму "пашанцавала" — і яны знайшлі скарыстанне свайму патэнцыялу на лесапавалах Дудзінкі, Калымы, на будоўлях Беламора-Балтыйскага канала, Магніткі, Нарыльска, будучага БАМа...*

*Абвінавачвалі інтэлігенцыю ва ўсіх магчымых і немагчымых грахах, а ў дачыненні да прадстаўнікоў прыгранічных рэспублік часта прысутнічалі абвінавачанні ў "шпіянажы".*

*Беларуская інтэлігенцыя не стала выключэннем у "брацкай сям'і народаў" і пацярпела так, што і сёння адчуваюцца гэтыя страты. На жаль, памяць чалавечая кароткая, бадай, карацейшая за чалавечае жыццё. І зноў мы чуем расповеды пра "светлае мінулае". Мяркую, неабходна ўвесь час нагадваць пра гэтае мінулае і ягоных ахвярах, каб ілюзіі зноў не ўчапіліся ў людзей мёртваю хваткай у суправаджэнні кандальнага перазвону...*

## ДОМ, ПОЎНЫ "ВОРАГАЎ"

Дваццаць два гады таму я з'ехаў з дому, які мінчукі называлі Домам спецыялістаў. Маімі суседзямі па пад'ездзе былі цікавыя людзі з незвычайным лёсам. Між іншым, незвычайнымі яны маглі здацца толькі грамадзянам вольнага свету. Для нашай краіны іх лёсы былі тыповыя — інакш скласціся яны, бадай, і не маглі. Пра некаторыя я хацеў бы распавесці.

У кватэры N 89 жылі муж з жонкаю — Іосіф Пятровіч і Ганна Вацлаваўна Прысы. Іосіф Пятровіч быў першым дырэктарам Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Ганна Вацлаваўна была дачкою вядомай паэтэсы Марыі Пялёды і Вацлава Усцінавіча Ластоўскага — гісторыка, мастацтвазнаўца, публіцыста, акадэміка АН БССР.

Трыццаць гадоў таму мой бацька, які працаваў на тэлебачанні, хацеў зрабіць перадачу пра Марыю Пялёду з удзелам Ганны Вацлаваўны. У перадачы размова мусіла кранууцца і Янкі Купалы — шматгадовая дружба звязвала яго з Ластоўскім і Пялёдай. Перадача не адбылася, і прычына палягала ў тым, што Вацлаў Ластоўскі на той час быў яшчэ не рэабілітаваны, а значыцца, фармальна працягваў лічыцца ў "ворагах народа". Чалавек, які стаяў ля вытокаў беларускага мастацтвазнаўства, адзін з заснавальнікаў Інбелкульта (Інстытута беларускай культуры) у кастрычніку 1929 г. быў звольнены з пасады сакратара АН БССР, затым арыштаваны і пастановаю СНК БССР пазбаўлены звання акадэміка. Яму ставіліся ў віну і "нацыяналізм" — бо спрыяў станаўленню беларускай культуры, і "шпіянаж" — сваякі ў Літве і Польшчы, і "ўдзел у контррэвалюцыйнай і тэрарыстычнай арганізацыі" (гэта, відаць, выцякала з папярэдніх абвінавачанняў).

10 красавіка 1931 г., праз два з паловаю гады пасля арышту, Ластоўскаму прысуджаюць пяць гадоў ссылкі ў Саратаў. Пасля адбыцця тэрміну вярнуцца ў Мінск ён не меў права і мусіў заставацца ў Саратаве, пакуль яго зноў не арыштавалі ў жніўні 1937-га. Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР не абцяжарвала сябе пошукам новых падрабязнасцяў "здрады" Ластоўскага — яна прадублявала абвінавачанне 1931 года і асудзіла Вацлава Усцінавіча 23 студзеня 1938 г. да вышэйшай меры пакарання.

Прысуд быў ажыццёўлены ў той жа дзень у Саратаве.

Рэабілітавалі Ластоўскага толькі ў 1988 г., а званне акадэміка вярнулі яшчэ пазней — у 1990-м. Ганна Вацлаваўна памерла на маіх вачах у 1969-м, так і не дачакаўшыся рэабілітацыі свайго ні ў чым не вінаватага бацькі...

У кватэры N 68 жыў пісьменнік Мікалай Фёдаравіч Чарнушэвіч (літаратурны псеўданім Федаровіч). І яго не абмінула хваля рэпрэсій. Ды і як магла абмінуць, калі са 112 членаў Саюза пісьменнікаў БССР было арыштавана 110, а на двох, якія заставаліся, ужо былі выпісаны ордэры на арышт: толькі вайна перашкодзіла засадзіць іх за краты. Праўда, аднаго з іх — Янку Купалу — лёс дагнаў у час вайны ў Маскве.

Мікалай Фёдаравіч, як і Ластоўскі, быў асуджаны двойчы: першы раз 16 ліпеня 1940 г. Асобай нарадаю пры НКВД СССР за ўдзел у антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі да васьмі гадоў лагераў; другі раз — 3 жніўня 1949 г. Асобай нарадаю пры МДБ СССР па тым жа абвінавачанні да бестэрміновай ссылкі ў Краснаярскі край. Сасланы ён быў у Енісейск, дзе знаходзіўся да 1954 г. разам з маім дзедам па маці, журналістам "Комсомольской правды". Лёс быў літасцівы да абодвух — яны выжылі і былі рэабілітаваныя ў 1955 г.

Майго другога дзеда, які жыў у тым жа Доме спецыялістаў, ледзьве не напаткала такая ж горкая доля, калі б не... Шчаслівым выключэннем сталася ўдала выцягнутая ім, хірургам-оталарынголагам, рыбіна костка з горла Цанавы, наркама НКВД БССР. На той час дзед ужо чакаў арышту — нагатове стаяў чамаданчык з камплектам споднягa...

З бацькам на Беларускім тэлебачанні рабіў Радаслаў Андрэевіч Александровіч, сын вядомага пісьменніка Андрэя Александровіча. Андрэй Іванавіч таксама быў двойчы асуджаны: у красавіку 39-га па прысудзе выязной сесіі Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР за ўдзел у антысавецкай шпіёнскай арганізацыі да пятнаццаці гадоў лагераў і пяці гадоў пазбаўлення правоў, а другі раз — 8 чэрвеня 1949 г. Асобаю нарадаю пры МДБ СССР да ссылкі ў Краснаярскі край. Рэабілітавалі Андрэя Іванавіча 25 лістапада 1955 г. Дзякаваць Богу, не пасля смерці...



## МАРТЫРАЛОГ: З КАМЕНТАРАМ І БЕЗ ЯГО

Хацелася б падаць невялікі, безумоўна, далёка не поўны спіс пацярпелых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, арыштаваных у Мінску.

**ДАЙЛІДОВІЧ Аляксандр Міхайлавіч,** паэт. Літаратурны псеўданім Алесь Дудар. Заснавальнік літаратурнага аб'яднання "Маладняк", галоўны рэдактар літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса "Маладняк". У 1929 г. "за распаўсюджванне верша антысавецкага зместу" быў высланы ў Смаленск. У 1931 г. арыштаваны і пасля шасці месяцаў знаходжання пад следствам быў вызвалены. 31 кастрычніка 1936 г. зноў арыштаваны. Праз год асуджаны выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР да вышэйшай меры пакарання — смерці, як "удзельнік шпіёнскай фашысцкай арганізацыі, якая падтрымлівала сувязі з трацкістамі-тэрарыстамі і ўкраінскімі нацыянал-фашыстамі; прыхільнік звяржэння савецкай улады, які праводзіў контррэвалюцыйную агітацыю сярод пісьменнікаў і вербаваў у нацыянал-фашысцкую арганізацыю".

Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г. у Мінску.

Рэабілітаваны ў 1956 г.

Ягоная магіла — трэба думаць, сімвалічная, бо пра месца знаходжання праху Алеся Дудара наўрад ці калі давядзецца даведацца, — знаходзіцца на Ваенных могілках.

**БАЛІЦКІ Антон Васільевіч** — народны камісар асветы БССР, правадзейны член Інстытута беларускай культуры, загадчык секцыі беларускай мовы і літаратуры Інбелкульта. 31 жніўня 1929 г. вызвалены ад абавязкаў наркама асветы. Арыштаваны 3 верасня 1930 г. Па прысудзе калегіі АГПУ БССР за "прыналежнасць да контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якая імкнулася звергнуць савецкую ўладу і ўтварыць буржуазную Беларускую Рэспубліку", асуджаны да дзесяці гадоў лагераў.

У 1937 г. асуджаны зноў. Да папярэдніх абвінавачанняў дадаюцца "кіраўніцтва нацыянал-фашысцкай арганізацыяй у Беларусі, шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і савецкім апараце". Асуджаны 31 кастрычніка 1937 г. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў той жа дзень у Мінску. Рэабілітаваны па першым прысудзе ў 1958 г., па другім — у 1988 г.

**ДУБОЎКА Уладзімір Мікалаевіч** — паэт, першы рэдактар часопіса "Беларускі піянер", адзін з ініцыятараў стварэння літаратурнага аб'яднання "Узвышша", выкладчык Камуністычнага універсітэта краін Захаду. У 1930 г. высланы (без прад'яўлення абвінавачання) на пяць гадоў у г.Яранск Кіраўскай вобласці, у 1937 г. асуджаны да дзесяці гадоў лагераў. Рэабілітаваны ў 1959 г.

**ПІЧЭТА Уладзімір Іванавіч**, рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Арыштаваны ў 1930 г. і ў 1931 г. асуджаны калегіяй АГПУ БССР за ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі да высылкі на пяць гадоў. Тэрмін адбываў спачатку ў Вятцы, потым у Варонежы.

У 1935 г. справа Уладзіміра Іванавіча была перагледжана, і ён быў датэрмінова вызвалены. Аднак рэабілітацыі вучоны не дачакаўся — памёр 23 чэрвеня 1947 г. у Маскве. Рэабілітаваны ў 1967 г.

**ПЛАШЧЫНСКІ Іосіф Паўлавіч,** паэт. Літаратурны псеўданім Язэп Пушча. Арыштаваны 24 ліпеня 1930 г., асуджаны 10 красавіка 1931 г. паводле пастановы калегіі АГПУ БССР за "контррэвалюцыйную дзейнасць, арганізаванае шкодніцтва, правядзенне антысавецкай агітацыі" да пяці гадоў ссылкі. Рэабілітавалі Іосіфа Паўлавіча ў 1958 г. Праз шэсць гадоў пасля рэабілітацыі, у 1964 годзе, ён памёр. Пахавалі паэта на ягонай радзіме, у Каралішчавічах (дарэчы, нядаўняй загараднай рэзідэнцыі пісьменнікаў Беларусі).



**ГАНЧАРЫК Міхаіл Мікалаевіч** — вучоны-біёлаг, пісьменнік, намеснік дырэктара Інстытута біялогіі АН БССР. Першы раз асуджаны ў 1933 г. паводле пастановы АГПУ БССР па справе "Беларускага нацыяналістычнага цэнтра" да дзесяці гадоў лагераў. Пасля вызвалення працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Арлоўскай доследнай бульбяной станцыі. Другі раз асуджаны ў 1949 г. Асобай нарадаю пры МДБ СССР да дзесяці гадоў ссылкі ў Краснаярскім краі. Рэабілітаваны ў 1956 г. Ваенным трыбуналам Беларускай ваеннай калегіі.

**ДВАРЧАНІН Ігнат Сямёнавіч** — паэт, літаратуразнаўца, грамадскі дзеяч. Працаваў у АН БССР у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі і адначасова выконваў абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства. Арыштаваны 16 жніўня 1933 г. па абвінавачанні ў сувязях з нацдэмаўскім цэнтрам, які нібыта дзейнічаў на карысць буржуазнай Польшчы, і асуджаны да дзесяці гадоў лагераў.

Другі раз асуджаны ў 1937 г. па тым жа абвінавачанні да вышэйшай меры пакарання.

Расстраляны 8 снежня 1937 г. у Мінску. Рэабілітаваны па абедзвюх справах у 1956 г.

**КАСМАЛЬСКІ Пётр Антонавіч,** артыст Опернага тэатра БССР. Асуджаны 11 мая 1933 г. па рашэнні тройкі пры пастаянным прадстаўніцтве АГПУ па БССР за шпіёнскую дзейнасць і антысавецкую агітацыю да ссылкі ў Казахстан, дзе яго асудзілі другі раз 11 лютага 1938 г. да вышэйшай меры пакарання.

Рэабілітаваны 21 лістапада 1957г.

**АКСЕЛЬРОД Зэлік Майсеевіч** — пісьменнік, член Саюза пісьменнікаў БССР. Арыштаваны 30 мая 1937 г. па абвінавачанні ў кіраўніцтве антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыяй. Загінуў у 1941 г. "пры нявысветленых абставінах падчас эвакуацыі арыштаваных".

Рэабілітаваны 7 чэрвеня 1957 г.

Тут трэба сказаць, што "чэкісты" часта ў падобных выпадках выкарыстоўваюць у адказах на запыты формулу "пры нявысветленых абставінах", тым часам як "абставіны" ім добра вядомыя.

Нягледзячы на блытаніну і паніку, якая назіралася ў першыя дні і тыдні вайны, дадзеныя па эвакуацыі турмаў былі дакладнымі і НКВД валодала поўнай інфармацыяй — механізм работы быў адладжаны і спрацоўваў у любых сітуацыях.

У мяне ёсць дакументы, якія сведчаць пра тое, што супрацоўнікі НКВД расстрэльвалі зняволеных якраз напярэдадні прыходу ў горад нямецкіх войскаў. Былі выпадкі, калі, замкнуўшы турму, начальства спехам пакідала горад, а зняволеных вызваляла насельніцтва. У бальшыні выпадкаў складаліся надзвычай дакладныя інструкцыі, дзе не дапускалася рознагачытанняў наконт ліквідацыі арыштантаў — незалежна ад полу і ўзросту. Расстрэлы здзяйсняліся адразу ж, як толькі была атрымана такая інструкцыя-загад.

**ГАЛАВАЧ Платон Раманавіч** — пісьменнік, былы сакратар ЦК ЛКСМБ. Асуджаны 28 кастрычніка 1937 г. выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР да вышэйшай меры пакарання як удзельнік трацкісцкай арганізацыі. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г. у Мінску. Рэабілітаваны 25 ліпеня 1956 г.

**КУДЗЕЛЬКА-ЧАРОТ Міхаіл Сямёнавіч,** паэт. Літаратурны псеўданім Міхась Чарот. Загадчык літаратурнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва БССР, галоўны рэдактар газеты "Советская Белоруссия", правадзейны член Інбелкульта, кандыдат у члены ЦК КП(б)Б, член ЦВК БССР. Арыштаваны ў 1935 г. Следства цягнулася два гады. Асуджаны 28 кастрычніка 1937 г. (па адной справе з Платонам Галавачом) выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР як агент польскай разведкі і ўдзельнік тэрарыстычнай арганізацыі да вышэйшай меры пакарання.

Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г. у Мінску.

Рэабілітаваны 8 снежня 1956 г.

**ЖЫЛУНОВІЧ Зміцер Фёдаравіч,** пісьменнік. Літаратурны псеўданім Цішка Гартны. Арыштаваны 15 лістапада 1936 г. па падазрэнні ў антысавецкай, контррэвалюцыйнай, нацыяналістычнай дзейнасці. Паводле звестак, пададзеных супрацоўнікамі КДБ БССР, памёр падчас следства (11 красавіка 1937 г.) у Магілёўскай псіхіятрычнай бальніцы. Рэабілітаваны 10 верасня 1987 г.

Тут таксама, як мне здаецца, патрабуецца невялічкі каментар. Рэч у тым, што ў шэрагу выпадкаў КДБ паранейшаму выдае ўяўнае за сапраўднае. Здавалася, пасля таго, што мы даведаліся з друку апошнімі гадамі, нішто ўжо не можа здзівіць чытацкае ўяўленне. У тым ліку і забойства падчас следства, і забойства без суда і следства. Але "ўнукі жалезнага Фелікса" і па сёння стараюцца схаваць праўду пра забойствы сваіх папярэднікаў. Гэта сведчыць пра тое, што ні пра якое пакаянне гаворка не ідзе. Гаворка ўзапраўды вядзецца пра тое, каб на выпадак рэабілітацыі таталітарнага рэжыму зноў выставіць "слаўныя органы" чыстымі і бязгрэшнымі "барацьбітамі за народнае шчасце".

А гэта сур'ёзная прычына для трывогі і падстава пісаць пра справы і жахі мінулых гадоў.

Пісаць, каб яны не паўтарыліся.

**Рыгор КАРПІЛАЎ**

*На здымках:*

*Л. Я. Гальдфарб, былы супрацоўнік "Комсомольской правды". Здымак 1960 г.*

*"Выратавальнік" Цанавы доктар медыцынскіх навук, прафесар Р. Х. Карпілаў. Здымак 40-х гадоў.*

ПАСЛЯ БАЛЮ...

# НАШЫ Ў ГОРАДЗЕ МАЛАДЗЕЧНА

Сцэнічныя дзеі трох разнастайных фестывальных дзён — поўны аншлаг на ўсіх серыях канцэртаў. Дык і не дзіўна: аніводны вечар не паўтарыўся, а кожнае песеннае аддзяленне магло быць стрыжнем любога канцэрта, і не толькі на Беларусі. Асабіста мяне да слёз крануў такі факт: на фестывалі ў Маладзечне я не сустрэла аніводнага знаёмага чыноўніка з Міністэрства культуры. Але не трэба аб сумным, тым больш, што ў гэтым годзе на фестывалі першая скрыпка належала артыстам, гледачам, і... амонаўцам. Не кожная заакіянская каманда "зорак" мае такую ахову! Адразу ж узгадалася жыццёвае: Беларусь — партызанскі край. Толькі прычым тут дубінкі да зорак? Далібог сапраўды заўважана: калі хочаш выставіць чалавека ідыётам перад усім светам, прымусь яго рабіць усё ў гэтым жыцці на поўным сур'ёзе. Толькі дзякуючы фасфарыцыруючаму колеру вопраткі маэстра Фінберга глядацкае ўяўленне перыядычна вяртала думкі з афганскіх гор — маскіровачныя касцюмы строю амонаўцаў — на сцэну. Нават і казацкія песні Дзяржаўнага ансамбля "Песняры" рэвалюцыйнай хвалі не ўзнялі. Затое антураж у спалучэнні з халатам — падарункам ад кубанскіх казакоў (!) паэту Уладзіміру Някляеву на ягоным аўтарскім вечары яўляла чуллівую "клюкву".

Магчыма, я ўжо старая, таму што памятаю тыя часы, калі першапалосныя паведамленні аб кожным аўтарскім канцэрце з "калоннай залы" друкаваліся пад рубрыкай "Нашы юбіляры". Дык вось, на IV Нацыянальным фестывалі юбіляраў было некалькі. Аўтарскія канцэрты кампазітараў Эдуарда Ханка, паважанага мною за эксклюзіўнае пачуццё гумару Эдуарда Зарыцкага, вядомага паэта з папулярным песенным стажам Уладзіміра Някляева. І хто быў сведкам гэтых эстрадных шоу, пагодзіцца са мною, што кожны з творцаў мае права на правядзенне аўтарскага канцэрта не толькі пад адкрытым небам, мізансцэны якога маглі б нагадваць музей-скансэн "зорак" беларускай эстрады. Калі коратка, дык можна падвесці рысу — але ж і можам, калі захочам! Усе вечарыны былі непадобныя адна на адну: вечар Някляева быў на тон урачысцей і больш "каранаваней", а рэспектабельнасць Зарыцкага дазволіла яму аб'яднаць у канцэрт патрыятычнае і незалежнае ў сваёй творчасці. Усё астатняе каштуе вялікіх грошай!

Наўрад ці назавеш кампенсацыяй за дрэннае надвор'е выступленне на літаратурных чытаннях паэтаў Леаніда Дранько-Майсюка, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна. Такога сузор'я вядомых паэтаў Беларусі не ўзгадае нават і прэстыжны "Славянскі базар". Гарадскі парк Маладзечна — "мекка" недзяржаўных мерапрыемстваў Беларусі — у дні фестывалю пераўтварыўся ў трыбуну беларускага літаратурнага Слова.







Іншым часам думаеш: што засталося ў нас пасля заканчэння перабудовы і таннай пасцілы? Няўжо і нацыянальныя фестывалі мы будзем вымушаны праводзіць хаатычна і дабрачынна? Няўжо толькі кіношны фестываль з рэлігійнай скіраванасцю ды "Славянскі базар" стануць візітоўкай сучаснага беларускага эстраднага мастацтва? Дзесьці праскочыла ў СМІ: на рахунак "Славянскага базара-96" наша дзяржава ўжо выдаткавала каля 325 тысяч амерыканскіх даляраў! Адразу ж узнікае рытарычнае пытанне тургенеўскага Муму: "За что?"! У Віцебску, прабачце за канкрэтнасць, у сябе на радзіме, нашы артысты, кампазітары і паэты, падчас фестывалю маюць сцэну толькі ў калгасах і саўгасах, зрэдку ў ДК. Прабіцца ў эфір з "сольнікам" або аўтарскім канцэртам беларусы, відаць, на чыюсьці думку, не вартыя. Магчыма, тварам не выйшлі, а магчыма, спрацоўвае генетычнае — усё лепшае гасцям, нашыя пачакаюць. І чакаюць!

Шчыра кажучы, фестываль у Маладзечне для гледачоў і многіх артыстаў быў дабрачынны. Скажам, папулярная мадэрн-рок-каманда "Палац" з васьмі чалавек за два выхады зарабіла ажно 1 мільён беларускіх зайчыкаў; вядучы начнога канцэрта Зміцер Падбярэзскі папоўніў свой бюджэт на 500 тысяч купюраў той жа валюты. А ўсяго IV Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі нашай дзяржаве абышоўся каля 2 тыс. амерыканскіх даляраў. Вядома, гэта не маштабы "Славянскага да-ду-да-ду-да" з эскадроннымі выплатамі за "арыі маскоўскіх гасцей" у выкананні Газманава і Распуцінай. Але аб гэтым гаворка наперадзе.

А сёння з цвёрдай упэўненасцю можна сказаць, што ўсё ж такі не любяць беларусы сябе, а пагуляць умеюць! Доказ таму — упарты IV Нацыянальны фестываль у Маладзечне адбыўся, быў святочным і прыгожым, што, урэшце, здзіўляе.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

*Мінск — Маладзечна — Мінск*

*На здымках: З. Падбярэзскі і А. Хаменка; амон і народ — адзіны!; А. Ярмоленка; М. Фінберг; У. Мулявін і У. Някляеў; Л. Грыбалева і Л. Дранько-Майсюк.*





КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3125
Замова
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**